№19 студзень 2012

# Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

# Грамадзянскія кампетэнцыі:

## што патрэбна беларусу, каб стаць грамадзянінам

**Гэты артыкул – спроба прааналізаваць выклікі, якія сёння стаяць перад беларускім грамадствам з пункту гледжання пабудовы дэмакратыі, і сфармуляваць грамадзянскія кампетэнцыі, якія патрэбны для гэтай мэты.**

Ключавыя кампетэнцыі, як гэта прапісана ў дакументах Еўрапарламента і Рады Еўропы, ёсць сістэмай ведаў (*knowledge*), уменняў (*skills*) і каштоўнаснага стаўлення ці пазіцыі (*attitudes*). Да гэтай сістэмы дадаецца крытычнае мысленне, крэатыўнасць, уменне вырашаць праблемы, прымаць рашэнні, уменне кіраваць сваімі эмоцыямі і г.д.




Як вядома, рамкавыя ўмовы, прапанаваныя Еўрапарламентам і Радай Еўропы, прадугледжваюць 8 груп ключавых кампетэнцый (гл. малюнак).

Разгледзім асобна грамадзянскія кампетэнцыі, прапісаныя ў тым жа дакуменце. Яны таксама складаюцца з ведаў, уменняў і каштоўнаснай пазіцыі.

Веды:

- веданне паняццяў дэмакратыі, справядлівасці, роўнасці, грамадзянства і грамадзянскіх правоў;
- веданне таго, як яны выкарыстоўваюцца рознымі інстытутамі на мясцовым, рэгіянальным, нацыянальным, еўрапейскім і міжнародным узроўнях;
- веданне як сучасных падзей, так і асноўных падзей ды тэндэнцый нацыянальнай, еўрапейскай і сусветнай гісторыі;
- уяўленне аб мэтах, каштоўнасцях і палітыцы грамадскіх і палітычных рухаў;
- веданне працэсу еўрапейскай інтэграцыі ды еўрапейскіх структураў, асноўных мэтаў і каштоўнасцяў, а таксама дасведчанасць наконт разнастайнасці і культурнай ідэнтыфікацыі ў Еўропе.

Уменні:

- здольнасць эфектыўна ўзаемадзейнічаць з іншымі ў публічнай сферы;
- здольнасць выяўляць салідарнасць і зацікаўленасць у вырашэнні праблем, якія ўплываюць на мясцовыя і шырэйшыя супольнасці;
- навыкі крытычнай і творчай рэфлексіі;
- канструктыўны ўдзел як у дзейнасці супольнасцяў, так і ў прыняцці рашэнняў на ўсіх узроўнях: ад мясцовага да нацыянальнага і еўрапейскага, уключна з галасаваннем;

Каштоўнасная пазіцыя:

- павага да правоў чалавека, уключна з роўнасцю як асновай дэмакратыі;
- павага і разуменне адрозненняў паміж сістэмамі каштоўнасцяў розных рэлігійных і этнічных груп;
- пачуццё прыналежнасці да сваёй мясцовасці, краіны, ЕС і Еўропы, свету;
- жаданне ўдзельнічаць у дэмакратычным прыняцці рашэнняў на ўсіх узроўнях;
- пачуццё адказнасці, разуменне і павага да агульных каштоўнасцяў (напрыкл. — павага да дэмакратычных прынцыпаў);
- канструктыўны ўдзел (уключае грамадскую дзейнасць, падтрымку сацыяльнай раз-

Актуальна

## МОЛАДЗЬ УЦЯКАЕ

Беларуская моладзь збольшага не збіраецца затрымлівацца на радзіме. 68.6% маладых людзей ва ўзросце ад 18 да 19 гадоў і 69.7% маладых людзей ад 20 да 24 хочуць з'ехаць за мяжу на сталае месца жыхарства. Пра гэта сведчаць вынікі нацыянальнага апытання, праведзенага Незалежным інстытутам




сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) у маі 2011 года, вынікі якога пададзены ў дакладзе «Рынак працы і працоўныя адносіны для жанчын і моладзі ў Беларусі».

Паводле НІСЭПД, моладзь — тая катэгорыя людзей, якая хоча з'ехаць у першую чаргу. Сацыёлягі тлумачаць такую сітуацыю горшым, чым у папярэднія гады, эканамічным станам, беспрацоўем, а таксама тыповымі «хваробамі» позняга аўтарытарызму: слабымі перспектывамі кар'ернага росту і агульным застоем. Хаця ёсць і тыя, хто гатовы з'ехаць толькі з палітычных матываў. Напрыклад, у выпадку далучэння Беларусі да Расіі. «Сённяшняя сітуацыя нагадвае канец 70-х — пачатак 80-х, так званы „росквіт застою" часоў позняга Брэжнева», — тлумачыць лічбы доктар сацыялогіі Алег Манаеў. Са словаў сацыёляга, з'едуць не ўсе, але грамадства ўсё роўна прайграе, а адзіны варыянт развіцця — праз аўтарытарную мадэрнізацыю.

*http://generation.by/news5024 .*

**ШТО ПАТРЭБНА БЕЛАРУСУ, КАБ СТАЦЬ ГРАМАДЗЯНІНАМ**

**>> СТАР. 1-3**

**ТАВАРЫСТВУ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ - 90 ГОД**

**>>> СТАР. 4**

# ГРАМАДЗЯНСКІЯ КАМПЕТЭНЦЫІ

настайнасці і згуртаванасці ды ўстойлівага развіцця, гатовасць паважаць каштоўнасці і прыватнае жыццё іншых людзей).

Калі прааналізаваць, што закладзена ў рамкавыя ўмовы Еўрапарламента і Рады Еўропы, то мы ўбачым, што

> грамадзянскія кампетэнцыі ў еўрапейскім разуменні ўключаюць у сябе веды, уменні і каштоўнаснасці, патрэбныя для сацыялізацыі і жыцця ў гатовай дэмакратыі, а не ў той, якую яшчэ трэба адваяваць і пабудаваць.

У нас грамадства далёкае ад дэмакратыі. Мы маем іншыя выклікі, таму Еўрапейскія рамкі грамадзянскіх кампетэнцый для нас занадта вузкія. Перад беларускім грамадствам стаяць задачы пазбаўлення ад аўтарытарызму ды пабудовы дэмакратыі, таму і грамадзянскія кампетэнцыі, патрэбныя для гэтай мэты, могуць адрознівацца ад грамадзянскіх і сацыяльных кампетэнцый, сфармуляваных у дакументах Рады Еўропы.

Прааналізаваўшы гэтыя выклікі, можна будзе сфармуляваць кампетэнцыі, адэкватныя патрэбам сучаснага беларускага грамадства і грамадзяніна, каб шукаць механізмы іх фармавання сродкамі грамадзянскай адукацыі.

**Аўтарытарызм: версія 2.0**

У якасці асноўнага дакумента, які апісвае сітуацыю ў сучасным свеце, разгледзім вынікі даследаванняў, якія правяла ў 2009 арганізацыя «Freedom House» разам з радыё «Свабодная Еўропа» і «Свабодная Азія». У прыватнасці, даклад экспертаў, які носіць назву «Падрыў дэмакратыі: дыктатары XXI стагоддзя». У ім праводзіцца аналіз агульных рысаў аўтарытарных рэжымаў XXI стагоддзя, а таксама таго, якім чынам яны здолелі ў апошнія гады дамагчыся значнага скарачэння палітычных свабодаў ва ўсім свеце.

Асноўныя небяспекі, якія сыходзяць ад аўтарытарных рэжымаў сёння:

- Перафармулёўка і скажэнне паняцця дэмакратыі (*Democracy Redefined*).
- Інтэрнэт пад пагрозай (*Internet Under Threat*).
- Міжнародная дапамога аўтарытарным рэжымам (*Authoritarian Foreign Aid*).
- Кантраляванне і ўплыў на палітыку дэмакратычных інстытутаў (*Rules-Based Organizations Under Siege*).
- Несвабодная адукацыя – інструмент для разлажэння наступнага пакалення (*Illiberal Education — Tainting the Next Generation*).

Асноўныя высновы даклада экспертаў наступныя:

- Сёння аўтарытарныя рэжымы расхістваюць дэмакратыю больш дасканалымі і вытанчанымі спосабамі, атрымоўваючы на гэтыя мэты шчодрае фінансаванне. Гэты новы клас дыктатараў увасабляе самую сур'ёзную пагрозу пабудове міжнароднай сістэмы, заснаванай на ўладзе закону, захаванні правоў чалавека і адкрытым выказванні думак.

- Сучасныя аўтакратыі карыстаюцца як традыцыйным, так і інавацыйнымі падыходамі дзеля сваіх мэтаў. Сярод традыцыйных дзеянняў, скіраваных на падрыў дэмакратыі: маніпуляванне прававой сістэмай, кантроль над сродкамі масавай інфармацыі і наўпростае запалохванне. Тут нічога новага з часоў Сталіна ці Мао – дыктатура і ёсць дыктатура.

> Але найбольш важна ўсведамляць, якія інавацыйныя падыходы выкарыстоўваюцца для падаўлення свабоды і дэмакрытыі.

У дакладзе зазначаецца, што сучасныя аўтакратычныя рэжымы:

- выкарыстоўваюць з падрыўнымі мэтамі дыскусіі і зносіны на прасторах інтэрнэту (кідаюць у бой цэлыя войскі каментатараў і правакатараў для зводу ў бок і зрыву цалкам разумных і правамерных онлайнавых дыскусій);
- прыстасаваліся да сучаснага глабальнага капіталізму, выкарыстоўваючы рынак для ўзмацнення свайго кантролю: камерцыйныя медыі адцягваюць увагу ад палітыкі і праблемаў; грамадзянам дазволена атрымліваць асалоду ад асабістых свабодаў, у тым ліку паездак за мяжу ды багацця спажывецкіх тавараў, немагчымых у колішнім СССР;
- новыя аўтарытарныя рэжымы таксама фармуюць міжнародныя каштоўнасці, выкарыстоўваючы самыя перадавыя і добра фундаваныя медыйныя прадпрыемствы. Напрыклад, Крэмль запусціў і шчодра фінансуе тэлеканал «Russia Today», спадарожнікавы тэлеэфір запоўнены рознажанравымі кітайскім ды іранскімі каналамі;
- прыкладаюць масу сілаў для падрыву дзейнасці міжнародных арганізацый, што дзейнічаюць на аснове ўсталяваных правіл і выступаюць у падтрымку дэмакратыі і правоў чалавека. Сярод іх Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ), Арганізацыя амерыканскіх дзяржаў і Еўрапейскі суд па правах чалавека. У Арганізацыі Аб'яднаных Нацый гэтыя краіны ствараюць часовыя кааліцыі для пазбягання крытыкі на свой адрас, выступаюць супраць прыняцця санкцыяў і прасоўваюць антыдэмакратычныя захады.
- замест татальнага кантролю выкарыстоўваюць «кіраваны палітычны дыскурс», у якім ужо нібыта адсутнічае відавочны дыктат. Такая кіраванасць забяспечваецца за кошт абіральнага замоўчвання навінаў ці інфармацыі або іх перапрацоўкі.

**Выклікі, якія стаяць перад беларускім грамадствам**

Як мы бачым, праблемы і метады дзеяння, найбольш характэрныя для сучасных аўтарытарных рэжымаў, апісаных у дакладзе, прысутнічаюць і ў Беларусі. У такіх умовах

> грамадзянскія кампетэнцыі, прызначаныя для паўнавартаснага існавання ў дэмакратычнай цывілізаванай прасторы, не патрэбныя для жыцця ў цяперашняй Беларусі. Больш за тое — яны перашкаджаюць сацыялізацыі. Гэта правакуе адцёк маладых найбольш адукаваных і амбітных людзей з краіны.

Разам з традыцыйнымі метадамі знішчэння дэмакратычных інстытутаў і адносінаў (рэпрэсіўны ціск на эканоміку, судовую сістэму, армію, адукацыю, медыцыну...), кіруючы рэжым таксама выкарыстоўвае ўсё больш хітрыя і завуаляваныя метады, якія існуюць у інфармацыйным грамадстве. Сярод іх:

**- Дыскрэдытацыя брэндаў.** Мы бачым, як на вачах некалі моцныя і аўтарытэтныя ды гучныя дэмакратычныя арганізацыі і палітычныя структуры нібыта драбнеюць, пазбаўляюцца інтэлектуалаў, расколваюцца на часткі. Але не ліквідуюцца, а працягваюць існаваць, дэманструючы грамадзянам сваю слабасць і недзеяздольнасць.

**- Знішчэнне і дыскрэдытацыя яркіх асобаў і лідэраў.** Тут найбольш яскравы прыклад — палітычныя зняволеныя: кандыдаты ў прэзідэнты, сябры іх перадвыбарчых штабоў, праваабаронца Алесь Бяляцкі. Апошняга ўлады нейтралізавалі за тое, што яго арганізацыя фіксавала факты парушэння беларускага заканадаўства, у тым ліку фальшавання выбараў. Аўтарытэтнага ў свеце і вядомага, бадай, кожнай беларускай сям'і праваабаронцу прапагандаператварыла ў злодзея і падатканяплатніка.

**- Выкарыстанне псеўданезалежнай і незалежнай прэсы.** Незалежная прэса паступова жаўцее, адштурхоўваючы ад сябе эліту і адцягваючы ўвагу дэмакратычнага электарату ад сур'ёзных тэмаў.

**- Стварэнне псеўдадэмакратычных структураў грамадзянскай супольнасці.** Тут гаворка ідзе не толькі пра БРСМ і «Белую Русь». Цяпер з боку ўлады сур'ёзна вядзецца пра стварэнне «канструктыўнай апазіцыі».

**- Выкарыстанне сацыяльных сетак, нанятых каментатараў.** Сацыяльныя сеткі, форумы робяцца пляцоўкамі прапаганды і адтулінамі для выпуску пары ў віртуальную прастору, тым самым зніжаецца сацыяльная і пратэставая актыўнасць.

**- Немагчымасць працаваць адкрыта.** Структуры грамадзянскай супольнасці загнаныя ў падполле, вымушаны хаваць інфарма-

# ШТО ТРЭБА БЕЛАРУСАМ

цыю, таму грамадству цяжка зарыентавацца, хто ёсць кім. Адсюль лёгкасць маніпулявання нават сябрамі адной арганізацыі.

- **Расколы грамадства паводле розных параметраў**: кожны месяц нам прапануюць групы, якія мы мусім зненавідзець: прадпрымальнікі, апазіцыя (пятая калона), заможныя, банкіры, палякі, аўтамабілісты (што скупілі валюту), беларускамоўныя, неправаслаўныя і г.д.
- **Свядомае знішчэнне нацыянальнай ідэнтычнасці**, мовы, культуры краінатворчай нацыі.




Сённяшняя дзяржава не зацікаўлена, каб беларусы ўсвядомілі свае нацыянальныя карані, аднавілі традыцыйныя каштоўнасці. Тады ж высветліцца, што абсалютная большасць нашых грамадзянаў — прадстаўнікі заходняй цывілізацыі: яны маюць еўрапейскую ментальнасць ды каштоўнасці, а дэмакратыя — гэта наш цывілізацыйны выбар. Цяпер уладам лягчэй маніпуляваць масавай свядомасцю, навязаць нам шлях у нікуды.

- **Выкарыстанне дзеля сваіх мэтаў інстытутаў замежных краінаў.** Праграмы дэмакратычнага свету, скіраваныя на супрацоўніцтва з недэмакратычнымі ўладамі і псеўдаграмадскімі структурамі толькі шкодзяць пабудове грамадзянскай супольнасці Беларусі, разбураюць веру ў дэмакратычную салідарнасць.

Для выжывання ў такіх умовах замест грамадзянскіх кампетэнцый, прапісаных у еўрапейскіх дакументах,

> сённяшняму беларусу патрэбны канфармізм, пасіўнасць, уменне падпарадкоўвацца, уменне апраўдаць сваю неграмадзянскую ці далёкую ад маралі пазіцыю.

Крытычнае мысленне трэба завуаляваць дэмагогіяй, уменне вырашаць праблемы замяніць пазіцыяй «мая хата з краю». Для кар'ернага росту спатрэбяцца навыкі маніпуляцыі людзьмі і групамі людзей. Што праўда, крэатыўнасць і ўменне кіраваць эмоцыямі давядзецца пакінуць — гэтыя кампетэнцы крытычна важныя для фізічнага існавання і прыстасавання да беларускай рэчаіснасці.

**Ключавыя кампетэнцыі для беларускага грамадства**

Аднак, грамадзянскія кампетэнцыі — гэта не кампетэнцыі для выжывання. Яны маюць прынамсі тры вымярэнні. У плане індывідуальнай перспектывы — гэта кампетэнцыі для паўнавартаснай самарэалізацыі і самаактуалізацыі асобы, яе сацыяльнай інклюзіўнасці і актыўнай грамадзянскасці, працаўладкавання і кар'еры. З пункту гледжання перспектывы для грамадства — гэта кампетэнцыі для існавання канструктыўнай дэмакратыі. І трэцяе вымярэнне — перспектыва для далейшага развіцця і рынку працы — гэта навыкі для інавацый.

Калі ўлічыць гэтыя перспектывы, то сучаснаму беларускаму грамадзяніну найбольш патрэбны :

- **Юрыдычныя кампетэнцыі** Гэта найперш юрыдычныя веды. У школах няма практычна-арыентаванага юрыдычнага мінімуму: падлік падаткаў, асновы працоўнага права, правоў грамадзяніна. Кожная грамадская арганізацыя Беларусі павінна праводзіць прававы лікбез для сваёй мэтавай групы. Найпершая задача беларусаў — вяртанне законнасці.
- **Уменне прымаць адказныя рашэнні** і ўменне бараніць свой выбар.
- **Крытычнае мысленне:** уменне адрозніць інфармацыю ад прапаганды, веданне прыёмаў, якімі карыстаюцца медыі для прамыўкі мазгоў, уменне аналізаваць, выбудоўваць лагічныя ланцугі.
- **Кампетэнцыя «шукаць і знаходзіць праўдзівую інфармацыю»**.
- **Моўныя кампетэнцыі** ў беларускіх умовах трэба аднесці да грамадзянскіх.

> Беларусам як мага хутчэй неабходна вырвацца з рускамоўнай інфармацыйнай прасторы. Рускамоўная прастора — не свабодная, не сучасная і не дэмакратычная, паколькі не ёсць свабоднай Расія, дзяржаўны строй якой згаданыя эксперты вызначылі як «выбарна-капіталістычная клептакратыя».

Звяртаючыся да расійскіх крыніц, мы маем скажоную, апрацаваную тымі ж «хітрымі» метадамі інфармацыйнага грамадства карціну свету.

- **Культурная самаідэнтыфікацыя** і культурнае самавыяўленне. Усведамленне, што дэмакратыя — частка нашай культуры, нашай ментальнасці.
- **Імунітэт ад спробаў раскалоць беларускае грамадства** па лініях, па якіх ніколі не праходзіў падзел.

Ну і асноўнае — **вяртанне ў грамадства каштоўнасцяў.** З самага верху нам навязваюць скажоныя сямейныя каштоўнасці, на прыгонна-кантрактнай працы знікае прафесійная этыка, у школах дзяцей заганяюць у піянеры і БРСМ — а калі ты адзін раз пераступіў мараль ці пайшоў супраць уласнай волі — і надалей можна быць амаральным...

> Сёння настаўнікі адкрыта збіраюць грошы на аднолькавыя ручкі, каб дзецям лягчэй было спісваць на экзаменах, бухгалтары падганяюць пад патрэбныя лічбы справаздачы, дактары выпісваюць тыя лекі, якія трэба прадаць, няма маральнага асуджэння злачынцаў, што фальшавалі выбары...

У Беларусі паступова знікла праўда, справядлівасць, а разам з імі і вера ў лепшыя перспектывы.

Таму сярод задачаў грамадзянскай адукацыі на першае месца трэба ставіць выхаванне грамадзянскай мужнасці: казаць праўду, адстойваць правы, не падпарадкоўвацца амаральным і незаконным загадам. Сёння быць нармальным чалавекам з маральнага пункту гледжання патрабуе ад беларусаў грамадзянскай мужнасці. І толькі вызначыўшыся ў сваёй грамадзянскай, прафесійнай пазіцыі, заснаванай на каштоўнасцях, можна казаць пра наступныя крокі.

Задачу фармавання грамадзянскіх кампетэнцый немагчыма вырашыць толькі сродкамі грамадзянскай адукацыі. Тут неабходны змены ў самім грамадстве, якое вызначыць запатрабаванасць тых кампетэнцый.

Міжнародныя эксперты прызналі, што дасёння палітыкі і дзяржаўныя дзеячы ў дэмакратычных краінах не здолелі знайсці эфектыўны падыход да пазбягання небяспекаў, якія нясе ўсяму свету аўтарытарызм новай версіі. Але ясна адно — замест нас саміх нашую частку працы ніхто не зробіць.

## Агенцыя ЗША па міжнародным развіцці абвесціла конкурс на ўдзел у праграме прафесійна-культурнага абмену «Community Connections».

Пераможцы конкурсу атрымаюць магчымасць прайсці трохтыднёвую прафесійную стажыроўку ў ЗША і пазнаёміцца з традыцыямі і культурай гэтай краіны. Удзельнікі будуць пражываць у сем'ях. Тэма стажыроўкі — дашкольнае развіццё дзяцей з сацыяльна неабароненых сем'яў.

Анкеты для ўдзелу прымаюцца да 17.00 24 лютага 2012 г.

***Кантактны тэлефон:*** 375 17 210 12 83, ext. 4695 – Марына Арлоўская, асістэнт па менеджменце праектаў USAID Беларусь.

# Ад ТБШ у Заходняй Беларусі да сённяшняга РГА «ТБШ»: 90 год

«Таварыства беларускае школы» — культурна-асветная арганізацыя ў Заходняй Беларусі — было створана рашэннем Цэнтральнай беларускай школьнай рады ў Вільні, а 7 снежня ўтварылася ТБШ у Радашковічах, заснаванае Браніславам Тарашкевічам. Аб'яднанне дзвюх арганізацый у таварыства, статут якога быў зацверджаны 1 ліпеня 1921 года, стала пачаткам пашырэння культурна-асветных гурткоў у Заходняй Беларусі. У сярэдзіне 1930 г. налічвалася іх больш за паўтысячы, яны аб'ядноўвалі 15 — 30 тысяч чалавек.

Асноўная мэта дзейнасці таварыства была абвешчана ў статуце — «пашыраць і памагаць асвеце ў беларускім нацыянальным, людскім і хрысціянскім духу». Актыўнымі дзеячамі яго ў розныя перыяды былі: намеснік старшыні ўрада Беларусі з 1919 г. Аркадзь Смоліч, аўтар «Геаграфіі Беларусі» (1919 г.), кіраўнік ТБШ у 1921 — 1922 г.; мовазнаўца і літаратуразнаўца, пасол польскага сейма Браніслаў Тарашкевіч, аўтар «Беларускай граматыкі для школ» (1918 г.); дырэктар Віленскай беларускай гімназіі (1924 — 1936 г.) Радаслаў Астроўскі (кіраўнік у 1924 — 25 г.); пасол польскага сейма Сымон Рак-Міхайлоўскі (з 1926 г. старшыня наглядальнай рады); фалькларыст Рыгор Шырма (сябра галоўнай управы і сакратар у 1927 — 37 г., выпускаў «Летапіс ТБШ», «Беларускі бюлетэнь»); настаўнік і дырэктар Віленскай беларускай гімназіі (1925 — 1928 г.) Сяргей Паўловіч, аўтар шэрагу школьных падручнікаў; дэпутаты польскага сейма Флягонт Валынец (з 1927 г. сябра галоўнай управы) і Ігнат Дварчанін (аўтар «Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры», 1927 г., сябра галоўнай управы ў 1926 — 1930 г.), а таксама Ф.Акінчыц, А.Аляшкевіч, Ф.Аляхновіч, П.Біндзюк, А.Біч, Я.Гаўрылік, М.Гарэцкі, І.Грэцкі, А.Дмахоўскі, Я.Драздовіч, П.Жаўрыд, А.Каляда, М.Касцевіч, М.Каханові, М.Кепель, П.Кізевіч, І.Краскоўскі, П.Крынчык, А.Луцкевіч, А.Лябецкая, А.Малец, М.Марцінчык, П.Мятла, П.Пестрак, П.Пліс, В.Пранько, М.Пяткевіч, П.Пяткун, В.Рагуля, А.Райчонак, У.Самойла, Я.Скурко (М.Танк), А.Станкевіч, Ф.Стацкевіч, А.Трэпка, А.Уласаў, Л.Чарняўская-Гарэцкая, Ф.Ярэміч ды інш.

Амаль усе з іх пераследаваліся польскімі ўладамі, некаторыя затым у СССР былі прыгавораны тройкамі УНКУС да расстрэлу.

Згодна са статутам, таварыства магло адкрываць і ўтрымліваць народныя школы і дамы, курсы, настаўніцкія семінары, чытальні-бібліятэкі, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, выдаваць часопісы, падручнікі і іншую літаратуру, займацца канцэртнай дзейнасцю.

Калі ў 1920 г. працавала 514 беларускіх пачатковых школ, то ў 1923 г. іх засталося 32. Затым у 1925 — 1926 гадах актывістамі было сабрана 16 000 дэкларацый аб адкрыцці больш 400 беларускіх школ. Важнымі цэнтрамі асветы сталі Віленская, Радашковіцкая, Навагрудская, Клецкая і іншыя беларускія гімназіі. Пад рознымі прычынамі зачыняліся беларускія школы, пераводзіліся ў двухмоўныя, затым польскасць выцясняла з установы ўсё роднамоўнае. На беларускія землі накіроўваліся настаўнікі-палякі.

2 снежня 1936 г. польскія ўлады зусім забаранілі дзейнасць уплывовай нацыянальна-патрыятычнай арганізацыі. Кіраўнік Польшчы Юзаф Пілсудскі ў 1926 г. сказаў пра беларусаў: «іх мова такая цяжкая і нераспрацаваная, што не можа быць мовай школы і ўстаноў», а пра інтэлігенцыю — «нешматлікая, яе маральная і інтэлектуальная вартасць вельмі нізкая». Цяжка было ўявіць, што праз якіх семдзесят гадоў кіраўнік ужо незалежнай Беларусі тое ж самае скажа пра яе мову...

* * *

22 сакавіка 1996 г. было створана Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай школы», зарэгістраванае Міністэрствам юстыцыі. Гэта добраахвотная грамадская культурна-асветная арганізацыя, якая аб'ядноўвае грамадзян з мэтай садзейнічання фарміраванню нацыянальнай адукацыйнай сістэмы ўсіх узроўняў, захаванню і развіццю беларускай культуры, традыцый і духоўнасці.

Шлях да яго пракладваўся цяжка. У савецкі перыяд у вёсках існавалі школы з беларускай мовай навучання, у гарадах — з рускай. У апошніх дайшло да таго, што ад вывучэння беларускай мовы і літаратуры маглі вызваляцца дзеці вайскоўцаў і некаторых іншых катэгорый бацькоў, а многія прадметы, напрыклад, замежныя мовы, фізкультура, праца ды іншыя маглі выкладацца па-руску.

У 1982 годзе Наста Лісіцына, якая пераехала з Вільнюса ў Мінск, стала першай і адзінай на той час беларускамоўнай вучаніцай у сталіцы, дзякуючы неймавернай мужнасці і настойлівасці яе бацькоў.

У час гарбачоўскай перабудовы актывізавалася дзейнасць «нефармалаў» па рабоце з бацькамі будучых першакласнікаў і ўзмацніліся патрабаванні адкрыцця беларускіх класаў. Я тады быў аспірантам у Акадэміі навук. Мы хадзілі па кватэрах і агітавалі за беларускую школу. Найбольш актыўнымі былі Алесь Бяляцкі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, Валеры Палсцюк. У 1987 годзе ў дзвюх школах (108 і 120), нарэшце, улады далі дазвол на адкрыццё трох беларускіх класаў.

У 1988 годзе група бацькоў пачала збірацца на пасяджэнні ў Доме літаратара і стварылі напярэдадні восеньскіх Дзядоў, што былі разагнаны міліцыяй, нефармальнае аб'яднанне Гарадскі бацькоўскі камітэт (ГБК) беларускамоўных класаў Мінска. Некаторыя з нашых сяброў затым сталі дэпутатамі, займелі добрыя пасады. Гэта людзі, якія будзілі маскоўскіх і сваіх чыноўнікаў набатнымі лістамі, рашучымі імпрэзамі, нематалі нагамі тысячы кіламетраў стужак маніфестацыйных дарог.

ГБК ладзіў розныя сумесныя імпрэзы для беларускамоўных дзяцей, праводзіў першы не піянерскі летнік «Грунвальд», куды таксама запрашаліся дзеці беларусаў Масквы, Ленінграда, Літвы, Польшчы. Рост беларускіх школ быў, калі нашы сябры былі абраны дэпутатамі Вярхоўнага Савета, дзе актыўна працавала Камісія па адукацыі і культуры, захаванні гістарычнай спадчыны пад кіраўніцтвам Ніла Гілевіча. Тады я ўзначальваў ТБМ Акадэміі навук і быў намеснікам старшыні Гарадскога бацькоўскага камітэта беларускамоўных класаў Мінска. Затым у 1992 годзе Міністэрства адукацыі і навукі прапанавала мне ўзначаліць і стварыць Беларускі навукова-метадычны цэнтр гульні і цацкі. Нашы сябры па ГБК былі абраны ў розныя саветы. Стала працэй працаваць, вырашаючы розныя пытанні ў кабінетах, хоць і добра яшчэ адчувалася тармажэнне адраджэнскай справы ад старых чыноўнікаў, у руках якіх была рэальная ўлада.

ГБК прымалі ў Міністэрстве адукацыі і навукі, дзе міністр Міхаіл Дзямчук шчыра радаваўся кожнаму беларускаму слову, пачутаму ў яго ведамстве, а яго памочнік Аляксандр Казулін яшчэ толькі спрабаваў вывучаць мову. Мы маглі правесці ў вялікай зале Дома літаратара на Грамніцы сустрэчу з рэктарамі ВНУ, дзе можна было пабачыць з сабой у адной чарзе да мікрафона намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча і Мікалая Ігнатовіча, будучага Генеральнага пракурора, і ўказаць на пралікі ў беларусізацыі, нават зрабіць прапановы па звальненні некаторых кіраўнікоў. Гілевічаўская камісія прызначала праверкі і выдавала нам мандаты на іх. Памятаецца, па выніках адной з іх міністр звольніў рэктара педінстытута Караткевіча і прызначыў на яго месца прыхільніка адраджэння прафесара Леаніда Ціханава.

У 1993 — 1994 гадах прыём у першыя беларускія класы па Беларусі складаў 76 % ад усіх першакласнікаў, а ў сталічнай вобласці — нават больш за 92 %, у Мінску — больш за 58 %. Упершыню ў сталіцы з'явіліся роднамоўныя сярэднія ўстановы. Паступова дзяржаўная беларуская мова, як і нацыянальныя мовы ў іншых краінах, займала свой пачэсны пасад, яна гучала ў галоўным заканадаўчым органе.

Няшчасце здарылася пасля так званага рэферэндума 1995 года, калі замест двумоўя пачало гвалтоўна насаджацца зноў рускамоўе. І ў 1995 — 96 навучальным годзе адбылося вялікае падзенне ў нацыянальнай адукацыі, адток дзяцей з беларускай школы: у першыя роднамоўныя класы было прынята ўжо не 76, а 37,9% , у сталіцы — 19,5%. Па-беларуску афіцыйна ў рэспубліцы навучалася 34,8%, па-руску 65,2% школьнікаў. Цяпер навучаецца недзе менш за 20% дзяцей на роднай мове. Інтэлігенцыя занепакоілася. Праз паўстагоддзя на Беларусі зноў ствараецца Таварыства беларускай школы.

З 2001 г. мы пачалі выпускаць інфармацыйна-метадычны часопіс «Бюлетэнь ТБШ», праводзілі разнастайныя конкурсы, метадычныя семінары.

Асобная старонка дзейнасці ТБШ — падтрымка зачыненага Гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, які цяпер зарэгістраваны ў Гданьску (Польшча).

Праз 90 год з таго часу, як было створана ТБШ, яшчэ не зніклі прычыны, якія яго спарадзілі і не ўзніклі тыя, што даюць аб'ектыўныя падставы на яго роспуск.

*Алесь Лозка*

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта **Nastaunik.info**
Адрас для допісаў: **nastaunik.info@gmail.com**
Наклад 200 асобнікаў